Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 26. Вільня, Серада 25 Жніуня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 староньцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.
Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Пачынаецца школьны год...

Пачынаецца школьны год і бацькі маюць клапот із сваймі дзяцьмі. Бядуюць тыя, што маюць яшчэ дзяцей па 6—12 год, бядуюць аб тым, як пасылаць іх у пачаткаваю школу. З аднаго боку пасылаць трэба, бо не ганяць-жа ім сабак па вуліцах, бо трэба каб тое-сёе навучыліся, даведаліся, пазналі, каб іхняе жыцьцё было сьвятлейшае і лепшае за жыцьцё іхніх бацькоў. Гэтае заданьне выпаўняюць школы на ўсім сьвеце; але ня ўсе школы, а толькі школы ў роднай мове, школы родныя, створаныя дзеля дабра народу, якому маюць служыць.

Але Польшча патаптала нашае сьвятое права прыроднае на родную школу, Польша не дае нам роднае школы, навет балей, у значнай часьці адабрала ад нас родную школу. Прынукаюць нашых дзяцей хадзіць у чужую ім польскаю школу, дзе калечаць душы дзяціныя, прывучаюць іх ненавідзець усё сваё роднае, навет сваіх бацькоў. Замест хлеба нам даюць камень. Накіданыя нам польскія школы гэта вялікая трагедыя нашага народу, і ні зашто так наш народ ня будзе помнець зла дазнанага ад Палякоў, як за адабраньне ад нас роднае школы.

Мы павінны ўсімі спосабамі бараніцца ад такога зла, як калецтва нашых дзяцей у чужой мове. Не даюць нам урадовай школы беларускай, адчыняйма прыватнаю школу беларускаю, вучэма нашых дзяцей у патайных школах беларускіх. Хто прымушаны пасылаць сваіх дзяцей у польскія школы, няхай іх аднача сна навучыць дома пабеларуску чытаць і пісаць, пазнаёміць іх зь беларускім рухам, каб атрутны яд польскай школы ня быў ім шкодны, каб за польскаю „навуку" не прадалі яны свае душы, а, наадварот сталіся з часам імсьціцелямі за роднаю справу.

### Беларускія гімназіі.

Ня менш клопат і тым бацьком, што патрабуюць аддаць свае дзеці ў сярэднія школы.

Маем мы чатыры беларускія гімназіі: у Вільні, Радашкавічах, Навагрудку і Клецку. Цяжка гэтым гімназіям, бо яны прыватныя і не дастаюць яны ні скуль памогі, але яны трываюць і мусяць трываць. У нашых гімназіях навука пастаўлена ня горай а часамі і ляпей як у гімназіях польскіх. Праўда, нашыя гімназіі дагэтуль ня маюць права выдаваць урадовых матураў, але сёлета або яны дастануць правы аднолькавыя з урадовымі гімназіямі і, значыцца, можна будзе зь іх матурамі паступаць у польскія ўнівэрсытэты і іншыя польскія высокія школы, або, будучы добра прыгатаванымі, змогуць здаваць экзамены на ўрадовыя матуры экстэрнамі, г. зн. пры апрычоных (асобных) камісіях. Дык дзьверы ў высокія школы зь беларускіх гімназіеў адчынены. Ужо ёсьць ня мала людзёў, што, кончыўшы сьпярша беларускія гімназіі, потым паканчалі ўнівэрсытэты і цяпер ёсьць дахтарамі і інжынерамі.

А якая-ж карысьць із нашых гімназіеў затым, што тыя, каторыя іх канчаюць, ня будуць чурацца сваіх бацькоў, радні, ня будуць здраднікамі свае Бацькаўшчыны, але паадварот будуць любіць і не пакінуць іх, будуць багаслаўленьнем для Краю і Народу.

**Дык пасылайце сваіх дзяцей у Беларускія гімназіі.**

*Янучонак.*

**БЕЛАРУСЫ, адчыняйце свае прыватныя беларускія школы!**

Каб скарэй дабіцца ўрадовай беларускай школы, кожная вёска павінна пакуль што адчыніць прыватную беларускаю школу, калі ёсьць беларускі вучыцель. Усе стараньні ў атрыманьні дазволу на школу бярэ на сябе Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Вы толькі павінны неадкладна прыслаць ў Інстытут (Wilno, ulica Zawalna 7—8) такія даныя:

1) У чыей хаце мае быць школа, яе разьмеры і колькі мае вакон?

2) Сьпісак дзяцей.

3) Кандыдата за вучыцеля, яго дакумэнты аб кваліфікацыі і жыцьцяпіс напісаны вучыцелям пабеларуску і папольску.

4) Адрэс вучыцеля і складаючага заяву селяніна.

*Беларускі Інстытут
Гаспадаркі і Культуры.*

---

## Злучэньне з праваслаўнаю царквою польска-каталіцкага нацыянальнага касьцёлу.

Мы ведаем, як каталіцкі касьцёл у Беларусі служыць польскай справе; ужо даўно ён зьяўляецца сьляпым аружжам польскае палітыкі, што пры ягонай помачы хоча сполёнізаваць Беларусаў-каталікоў. Але знайшліся Палякі, што й з гэтакага касьцёлу ня былі здаволены. Сталася гэта не ў Беларусі, але ў Польшчы. У Польшчы каталіцкі касьцёл ня можа служыць апалячваньню, бо тамака ўсе хрысьцяне—Палякі. З гэтае прычыны выходзіць, што з каталіцкага касьцёлу ў Польшчы Палякі ня маюць тае карысьці, якую яны зь яго маюць у нас. З другога боку, залежнасьць касьцёлу ад рымскага папежа абмежуе свабоду Палякоў у справах рэлігійных. Гэта прымусіла частку польскага каталіцкага духавенства, надта нацыяналістычна настроенага, вылучыцца з каталіцкага касьцёлу і закласьці „польска-каталіцкі нацыянальны касьцёл", ужо незалежны ад Рыму. Але вялізарная большасьць духавенства й сьвецкіх Палякоў асталіся вернымі старой веры. Адны асталіся з прычынаў рэлігійных, іншыя з нацыянальных, лічачы, што каталіцкі касьцёл усё-ж такі карысны Польшчы. Дзеля гэтага за эндэцкага ўраду (да перавароту Пілсудскага) вернікоў нацыянальнага польскага касьцёлу навет перасьледавалі. За ўраду Бартля—Пілсудскага перасьледаваньня ня было. Ня гледзячы па гэта нацыянальны касьцёл польскі пайшоў на зблíжэньне з праваслаўнаю царквою і нядаўна злучыўся зь ёю. Сёлета 1 ліпня праваслаўны сабор прыняў яго ў свой склад на гэткіх умовах:

1) Супольныя догматычныя прынцыпы веры для ўсходняе і заходняе царквы з пал. XI ст.; 2) Нікейска-канстантынопольскі сымболь веры; 3) Сем сьвятых тайнаў; 4) Заходні абрад у польскай мове для верных *польска-праваслаўнага касьцёлу*; 5) Афіцыяльны назоў для польскага праваслаўнага касьцёлу будзе: „Polsko-prawosławny kościoł narodowy"; *) 6) Польскі праваслаўны нацыянальны касьцёл прызнае юрысдыкцыю аўтокефальнага праваслаўнага мітрапаліта ў Польшчы ўлучна із сінодам біскупаў у Польшчы а пераз іх уступае ў аб'яднаньне з усёю праваслаўнаю царквою з константынопольскім патрыярхам на чале; 7) Біскупы польскага праваслаўнага касьцёлу прыймаюць учасьце ў сінадальных нарадах аднолькава зь біскупамі праваслаўнымі, але толькі тады, калі разглядаюцца справы польскага касьцёлу; 8) Усялякія дагматычныя розьніцы павінны быць аддалены зь веры й абрадаў; 9) Праваслаўная царква *прыймае вераньні польскага праваслаўнага* нацыянальнага касьцёлу *ў місіянства польскага народу ў справе злучэньня славянскіх народаў*, першаю *праявою якога ё цяперашняе* злучэньне; 10) *Польска-праваслаўны нацыянальны касьцёл абмежуе сваю дзейнасьць толькі да польскага насяленьня;* 11) Прычасьце пад відам хлеба і віна; 12) Цэлібат духоўных асоб не забавязуе; 13) Ксёндз Гушна (правадыр польска-каталіцкага нацыянальнага касьцёлу—*Рэд.*) прыймае сьвяшчэньне з рук мітрапаліта і біскупаў праваслаўнае царквы ў Польшчы; 14) Антымінсы і міро дастае польска-праваслаўны нацыянальны касьцёл ад праваслаўнага мітрапаліта варшаўскага.

Ці маюць праваслаўныя Беларусы з гэтага злучэньня цешыцца? Выглядае якобы праваслаўная царква ў Польшчы дастала перамогу. Але ці так запраўды ёсьць? Чаму да праваслаўнае царквы ня прылучаўся польска-каталіцкі нацыянальны касьцёл тады, калі ён за эндэцка-пэпэсаўскай улады перасьледаваўся, а прылучыўся цяперака, калі за ўлады Бартля—Пілсудскага яго ніхто не чапаў? Дык ці нямаш тут якіх польскіх мэтаў нацыянальных, ці ня прылучыліся польскія нацыяналістыя да праваслаўнае царквы дзеля лепшага палячэньня праваслаўных Беларусаў і Украінцаў? Бяссумлеву „праваслаўныя" Палякі патрапяць лепей полёнізаваць праваслаўных Беларусаў дзеля таго, што будуць зь імі аднае веры. Што пры злучэньню з праваслаўнай царквою польскія нацыяналістыя мелі на ўвеце свае нацыянальныя імкненьні, відаць із пункту 9, дзе проста „вераньні" польскія прыймаюцца „ў месіянства польскага народу ў справе злучэньня славянскіх народаў, першаю праявою якога ё цяперашняе злучэньне". Ведама, дзе ё першая праява, там наўперад будзе і далейшая работа ў гэтым кірунку. А хто паручыцца, што польскія нацыяналістыя захочуць абмежыцца адным рэлігійным месіянствам, не пераходзячы да „месіянства" накшага, полёнізацыйнага, бо гэтакае „месіянства" так сама ў Палякоў ёсьць? Гэтаю небясьпечнасьці зразумеў сам праваслаўны сабор і выказаў яе ў пункце 10, забараняючы працаваць польскім, цяпер „праваслаўным", нацыяналістым сярод *ня* польскага насяленьня. А хто будзе азначаць, дзе насяленьне польскае а дзе няпольскае, бо, прыкладам польскія ксяндзы каталіцкія, полёнізуючы Беларусаў-каталікоў, кажуць, што гэта насяленьне польскае. Бяссумлеву, што ў праваслаўных біскупаў ня будзе ніхто пытацца, дзе якое насяленьне ё. А што польскі ўрад, каторы розцымі спосабамі імкнецца нас спалячыць, пойдзе на сустрэчу гэтаму польскаму месіянству нацыянальнаму на беларускіх землях, аб гэтым так сама нельга сумлявацца. Цяперашні ўрад ужо гэтаю ахвоту выказаў. Гэтак ворган прэм'ера Бартля „Nowy Kurjer Polski" між іншым піша:

> „З гледзішча гаспадарства гэта (злучэньне польскага нацыянальнага касьцёлу з праваслаўем!—*Рэд.*) ня ёсьць ад'емнае зьявішча. Наадварот, хоцьбы часткаваю полёнізацыю праваслаўя, што налічае тры міліёны (?) вер-

---

*) Але на польскай зямлі дазволена ужываць стары назоў: „Polsko-katolicki kościoł narodowy"

нікаў сярод грамадзянаў Рэчыпаспалітай трэба ацаніць барждҗэй як дадатнае (пазытыўнае) зьявішча".

Ворган пілсудчыкаў „Głos Prawdy" так сама лічыць гэта за дадатнае зьявішча.

Гэткім парадкам праваслаўная царква ў Польшчы лучыла цяпер пад крыжавы агонь. Польскі ўрад імкнецца абярнуць яе ў сваю слугу пры помачы польскай „аўтокефаліі", гэтага чыста польскага твору, імкнецца яе аслабіць і зьнiстожыць, каб на месцу ейным насадзіць польскае каталіцтва. Але гэтакая работа вельмі доўгая, каб ёй памагчы, прыдумалі способ узрываці праваслаўнаю царкву із сярэдзіны пры помачы створанага польскага „праваслаўя". Мы бачылі, што аб гэтым дагадаваўся сабор праваслаўных біскупаў, але ўсё-ж такі пайшлі на гэта, як ідуць на шмат іншага, чаго дамагаюцца ад іх Палякі. Дык ад біскупаў спадзявацца няма чаго. Сам праваслаўны беларускі народ разам із сьвядомымі адзінкамі з паміж прыходзкага духавенства мае бараніць сваю рэлігійнаю і нацыянальную самабытнасьць. І мы пэўны, што ён яе абароніць, як абараніў яе ў XVII стагодзьдзю.

*Горадзенскі.*

---

## Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Ужо значна арганізавалася такіх Гуркоў. Будзем друкаваць іх пакрысе ў нашай газэце. У гэтым № падаем некалькі:

1) У вёсцы **Барадзенічы**, Едзкае вол., Браслаўскага павету сёлета 25 ліпня зарганізаваны Барадзеніцкі Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

2) У м. **Браславе**, вул. Пілсудскага сёлета 14 жніўня зарганізаваны Браслаўскі Гурток Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры.

3) У вёсцы **Цяцеры**, Едзкае воласьці, Браслаўскага пав. 14 жніўня сёлета зарганізаваны Цяцерскі Гурток Бел. Інст. Гаспадаркі і Културы.

4) У вёсцы **Семянішкі**, Едзкае вол., Браслаўскага пав. сёлета 14 жніўня зарганізаваны Семяніскі Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

5) У вёсцы Густаты, Едзкае вол., Браслаўскага пав. сёл. 14 жніўня зарганізаваны Густацкі Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

---

## Закладайце Гурткі Беларускага Сялянскага Саюзу.

Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца палітычнай партыяй, якая стаіць на грунце сялянскіх інтэрэсаў і якой праграма ўжо была друкавана ў «Сялянскай Ніве». (Друкаваную праграму можна дастаць у Саюзе — Вільня, Полацкая 4—7).

Выканаўчымі органамі Саюзу апрача цэнтральнага камітэту ёсьць акружныя і сельскія камітэты.

Згодна з § 14 статуту Саюзу, калі ў якім мейсцу знойдзецца ня меней як 3 асобы, якія прызнаюць праграму Беларускага Сялянскага Саюзу, то тыя асобы твораць гурток Сялянскага Саюзу.

Аб утварэньні такога гуртка ініцыатары павінны паведаміць Цэнтральны Камітэт Беларускага Сялянскага Саюзу. Паведамленьне такое можа быць напісана ў такой форме:

У Цэнтральны Камітэт
Беларускага Сялянскага Саюзу
ў Вільні, Полацкая 4—7.

Пазнаёміўшыся добра з Праграмай і Статутам Беларускага Сялянскага Саюзу, і жадаючы працаваць на карысьць Бацькаўшчыны пад сьцягам Сялянскага Саюзу, ніжэй падпісаныя залажылі гурток (сельскі камітэт) Беларускага Сялянскага Саюзу ў вёсцы . . . . , вол. . . . . . . павету.

У часовы камітэт гуртка ўваходзяць:
старшыня гр. . . . .
скарбнік гр. . . . .
сэкрэтар гр. . . . .

Камітэт месьціцца ў доме . . . . (падаць прозьвішча і імя гаспадара хаты).

У сувязі з вышэйпаданым просім зацьвердзіць тымчасовы склад камітэту гуртка ў вашай вёсцы.

(Подпісы 3-х асоб вышэйпаданых сяброў камітэту)

Дня . . . . 1926 г.
вёска . . . . . .
пошта . . . . . .

---

М. Запольскі.

## НА ЧУЖЫНЕ.

Вада цячэ, гадкі бягуць...
Так нудна на чужыне!
Дамоў, во думкі усё гудуць,
Край родны на ўспаміне.

Галодны сэрцам між чужых
Цалюткі дзень блукаю,
Спаткаць свайго, пачуць сваіх
Натужна ўсё жадаю.

Ня сьпіцца мне... ды як тут спаць!
Дачцэ пара во ў школу,
І сын пачаў ўжо размаўляць —
Гадок меў на Міколу.

Мне шчыра жаль дачку пусьціць
У школу ўсім чужую,
Ды што ты зробіш, як тут быць?!
Несамахоць марную

Дні на чужыне.. Лёс такі...
І гіну на чужыне!
Вада цячэ, бягуць гадкі,
Край родны на ўспаміне!

---

## Што такое „Niezależna Partja Chłopska?"

Ужо 4 гады як у нас у Заходняй Беларусі пачала агітаваць між сялянамі польская партыя „Wyzwolenie." Прыкідавалася яна сялянскай партыяй Палякоў, Беларусаў і Украінцаў. Але найболей свае сеці запусьцілі «вызваленцы» на нашаю Беларусь, атуманюючы рознымі абяцанкамі беднага і цёмнага селяніна беларускага. Гэта ім трохі і ўдалося дзякуючы таму, што мясцовыя вызваленцы прыкідаваліся за сьвядомых Беларусаў, выдавалі перад выбарамі газэтку і адозвы ў беларускай мове. Праўда, што падчас выбараў прашлі ў Сойм із «Вызваленьня» некалькі Беларусоў, але не сьвядомых.

Посьле выбараў «Вызваленьне» паказала праўдзівы свой твар польскае гакаты, твар смока, які, каб прымеў, у вадзін дзень зьеўбы Беларусаў. Але гэта ім не ўдалося беларускі селянін пабачыў і сьцеміў, дзе сядзіць яго заклятый непрыяцель, закрываючыся авечаю скураю.

Па некалькі спробах і далей абаламучаваць наш народ, вызваленцы пацярпелі паражку і сьцемілі, што іх пазналі. Тады яны пачалі дзяліцца і хавацца пад іншыя скуры і вось тады частка стварыла «Нез. партыю хлопскаю.»

Дык хтож такія гэта NPCh? Большая частка зь іх із крыві і косьці Беларусы, але несьвядомыя, як Шакун, Шапель, Галавач і Балін; двох із дзядоў апалячаныя Беларусы, як Ваяводзкі і Бон (якіх, к слову сказаць, польскія газэты, як „Kurjer Ilustrowany Krakowski" завуць беларускімі камуністымі ) Але, ня гледзячы на сваё беларускае паходжаньне, яны палячаць наш народ іх праца найбалей абхоплюе Беларусь, але яны як у сваім воргане, так сама і ў адозвах зварочуюцца да нашага народу ў польскай мове. Яны абмінаюць, усё беларускае моўчыкам. Мы іх пасылалі ў Сойм із перакананьня, што яны будуць нашым голасам як у соцыяльных так сама і ў нацыянальных адносінах, голасам Беларуса-нявольніка Польшчы, што адраджаяцца да свайго новага жыцьця. З усяго відаць што NPCh патрэбна была новая скурка, каб лепей ашукаваць нашае сялянства, а запраўды яна асталася старым «Вызваленьнем.»

*Каліна.*

---

## Не забывайцеся нашае газэты!

„Сялянская Ніва" гэта газэта ўсіх беларускіх сялянаў. Адзіная яна ў нас пакуль што, але тым павінна быць дарожшая. Дзякуючы „Сялянскай Ніве" голас беларускага сялянства разыходзіцца шырака па ўсёй Беларусі, Польшчы і даходзіць да чужых далёкіх краёў.

Дзеля гэтага ўсе беларускія сяляне зацікаўлены, каб „Сялянская Ніва" жыла, разьвівалася і з часам выходзіла часьцей. Хто-ж зробіць, каб гэтыя нашыя жаданьні споўніліся? Мы беларускія сяляне адны гэта мусім зрабіці, ніхто нам не паможа. Дык кожны беларускі селянін павінен рупіцца выпісаць „Сялянскаю Ніву", паслаўшы ў рэдакцыю грошы. А грошы гэтыя невялікія. Праўда, пры тэй галіце, якая цяперака так ахапіла наш край і якіх 8 залатовак у год ня кожны можа даць на газэту. Але хто ня можа падпісацца на газэту адзін, няхай зложацца ўдваіх, траіх, пяцёх і гэтак далей, можна і ў дзесяцёх выпісаць адну газэту. Калі-б усе гэтак рабілі, дык і газэта нашая таньней стоіла-б, вялічыня яе магла-б быці большая і выходзіць магла-б што дзень.

Есьць гаспадары, што лёгка маглі-б паслаць грошы як падпіску на сваю газэту, але гэтага ня робяць. Яны часта лепей вып'юць, як пашлюць на сваю газэту. Гэта людзі цёмныя, што ня ведаюць значэньня свае газэты. Колькі, бывае, людзі плацяць адвакату, каб ён бараніў іх у судзе. Але-ж свая газэта гэта наш найвярнейшы адвакат, які нас бароніць бязустанку. Іншыя на'т ведаюць значэньне роднае газэты, любяць яе чытаць, але хацелі-б даставаць дарма, не пасылаючы грошай, хоць маюць што паслаць. Гэта нясумленыя людзі, каторыя хочуць дабра на чужы кошт.

Рэдакцыя „Сялянскае Нівы" складаецца з такіх-жа бедных людзёў, як і іншыя сяляне, а часамі і бяднейшыя. Яны сваім коштам газэты выдаваць ня могуць, а значыць і пасылаць яе дарма ня могуць. Дык нашыя чытары, каторыя схочуць, каб „Сялянская Ніва" жыла і разьвівалася павінны самі рупіцца, каб пасылаць грошы на падпіску акуратна, і разьясьніць гэта іншым. Павінны знаходзіць новых падпішчыкаў, наагул пашыраць „Сялянскаю Ніву".

Але сказаным павіннасьці нашага сялянства да свае газэты не канчаюцца. Трэба каб „Сялянская Ніва" была запраўдным люстрам жыцьця беларускага сялянства. Гэта станецца тады, калі нашыя сяляне будуць ня толькі чытаць сваю газэту, але і працаваць у ёй. А працаваць могуць тым, што будуць пасылаць у газэту лісты аб зьдзеках і крыўдах, робленых нашаму народу адміністрацыяй, аб справах валасных і павятовых, аб школах і гэтым падобных.

Людзі інтэлігентныя, балей прыгатаваныя да газэтнай працы могуць пасылаць свае стацьці й апавяданьні.

*Селянін.*

---

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Із Заходняе Беларусі.

### Сьвяткаваньне 20-х угодкаў беларускага друку.

Сёлета 14 верасьня мінае 20 год ад дня выхаду першае часопісі ў беларускай мове—„Нашае Долі", што выходзіла ў Вільні ад 1(14) верасьня 1906 году. Справай сьвяткаваньня ўгодкаў заняўся Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні. Ён абраў дзеля гэтага адумысловаю камісію, складзенаю із сяброў Камітэту і работнікаў друку.

Дзеля таго, што 14 верасьня сёлета прыпадае ў будні дзень, пастаноўлена ўладзіць адпаведнаю ўрачыстасьць у найбліжшую за гэным днём нядзелю—19 верасьня. Сьвяткаваньне мае быць у 12 гадз. дня і складацца будзе з урачыстае акадэміі і аднадзеўнае выстаўкі беларускага друку, па якой будуць забраны, магчыма, поўна ўсе беларускія пэрыядычныя выданьні, пачынаючы ад „Нашае Долі".

Але падобныя сьвяты не павінны абмежавацца аднэй беларускай інтэлігэнцыяй віленскай, але мелі-б абняць сабою прынамся ўсю Заходняю Беларусь. Аб гэтым павінны парупіцца нашыя навуковыя і культурныя ўстановы ў Вільні.

Зрабіць гэта можна вось як:

1) Сьвяткаваньні могуць адбывацца на працягу ўсяго часу ад 14 верасьня да 31 студня сёл. году.

2) Добра апрацаваныя і прачытаныя ў Вільні рэфэраты трэба якга адбіць у літаграфіі і разаслаць па 2 экз. кожнай арганізацыі беларускай на провінцыі. Гэтакіх арганізацыеў у нас ё некалькі сотнеў. У некаторых арганізацыеў даволі будзе рэфэратаў, прыгатаваных сваймі сіламі; іншыя абмежацца тым, што прачытаюць прысланае, а яшчэ іншыя злучаць свае із прысланым.

### Правакатар Язэп Шэшка ў Горадне.

Правакатар Язэп Шэшка ў Горадне даваў фальшывыя весьці. На пытаньне, чаму ён гэтак рабіў, Я. Ш. адказаў: „Трэба было жыць". Я. Ш. пасаджаны ў турму. Хто можа сумлевацца, што гэтакіх правакатароў ёсьць шмат?

(„Нар. Справа").

### Самалёт заграз у балоце.

Каля вёскі Казаноўшчына Сьвянцянскага павету нядаўна прабаваў спусьціцца польскі самалёт. Афіцэр, які ім ехаў, не разгледзіў добра грунту і заграз на казаноўскіх сенажацях. Самалёт разабраўшы пацягнулі на паправу пад Вільню.

### Даўно пара.

Наваградзкі вайвода ген. Янушайціс пакідае вайводзтва і варочаецца ў армію. Новы вайвода назначаны будзе на гэтых днёх.

### Беларускі сьцяг.

Надовячы ў Паставах быў вывешаны сьцяг у беларускай мове з надпісам: „Дамагаемся звальненьня палітычных вязьнеў“. Хто вывесіў, нямаш ведама.

### Звальненьне ўраднікаў у Віленскім вайводзтве.

31-га верасьня ў Віленскім вайводзтве будзе звольнена сто новых ураднікаў.

## Л і с т ы.

### Добры прыклад.

(Вёска Барані, Сьвянцянскага пав.).

У нашай вёсцы здарыўся дзіўны выпадак. Аднаму гаспадару пшчолы на сьмерць закусалі астатняга каня. Жаль зрабілася суседзям чалавека, што астаўся без каня, дык забраліся і пастанавілі злажыць грошы на новага каня беднаму Янку Якубцэвічу.

Падаў гэтую думку грамадзянін Кучынскі, на заклік якога адазваліся нашыя сяляпцы і складкі пасыпаліся, ня гледзячы на безграшоўе і цяжкія часы.

Няхай-жа гэты выпадак будзе перасьцярогай для іншых, што ня можна ніколі навязаваць каня каля пшчолаў, а калі здарылася няшчасьце, няхай іншыя бяруць прыклад з Барань, як трэба памагчы ў бядзе.

*Даўбешка.*

### „Niezależna Partja Chłopska“ ашукавае народ.

(м. Вішнева, Валожынскага пав.)

У нашае мястэчка і Вішнеўскаю воласьць часта даведаваліся паслы зь „Незалежнай Партыі Хлопскай“. Былі Шакун, Галавач і іншыя. На сваіх вечах яны крычэлі, каб нашыя сяляне ня куплялі зямлі, бо маюць дастаць дарма. Ведама, што па справядлівасьці сяляне Беларусы і павінны былі-б дастаць зямлю дарма. Але калі зямлі цяперака дастаць дарма немагчыма, дык трэба хоць купляць, абы яе мець. Дык добра пісала нашая газэта „Сялянская Ніва“: Дабівайма́ся зямлі дарма, але здабывайма яе ўсяляк; хто можа купляць, няхай купляе“.

Тымчасам паводле „незалежных хлопаў“ трэба было сядзець і чакаць, пакуль дадуць дарма, а зямлю з-пад носу забіралі асаднікі. Ад гэтага нашае сялянства мела вялікія страты. Раней можна было дастаць зямлі за 20 даляр. дзесяціну, а цяперака й за сто даляраў не дастанеш. Але можа „Незалежная Партыя Хлопская“ сама абмылілася і нехаця зрабіла нам вялікую крыўду? Дык восьжа не! Паслы „незалежныя хлопы“ самі сабе зямлю куплялі. Гэтак пасол Шакун купіў каля Гіцэрні ў Вішневе найлепшага гароду каля 40 (сорак) дзесяцінаў. Дык з гэтага відаць, што паны з „Незалежнай Партыі Хлопскай“ сваім бальшавізмам толькі правакуюць наш народ, а самі ня так робяць, як крычаць, але начай, наадварот. Гэта павінны добра запамятаваць усе тыя, што аддавалі пры выбарах у Сойм свае галасы за гэтых ашуканцаў.

*Вішневец.*

## З Радавае Беларусі.

### Да пашырэньня БСРР.

У № 157 «Сав. Беларусі» якісь М. П. у стацьці «Лясноя гаспадарка БСРР» пішучы аб вялікай ролі ляснае гаспадаркі ў Беларусі, паміж іншым кажа:

«Але ня толькі гаспадарка Беларусі карыстаецца прадукцыяй беларускіх лясоў,—значная частка ідзе і ў іншыя раёны, напр. у Гомельшчыну, прамысловасьць якой карыстаецца сырызнай беларускіх лясоў.

У сувязі з гэтым высовуецца пытаньне аб аб'яднаньні лясное гаспадаркі Заходняй вобласьці. Тут мы маем вадаразьдзел Заходняй Дзьвіны, у які ўваходзяць Віцебская і Полацкая акругі БСРР, а таксама Веліскі, Невельскі і Себескі паветы Пскоўскай губэрні. Апошнія тры ўваходзілі раней у склад Віцебскай губ., цесна зьвязаны эканамічна і этнаграфічна з БСРР, а з Пскоўскай губ., ніякае сувязі ня маюць (асабліва Веліскі павет цалком зьвязаны з Віцебскай акругай). Затым, сыстэма Дняпра, у якую ўваходзіць і Гомельшчына. Тут трэба адзначыць, што ў Гомельшчыне, як і ў БСРР, значная частка прамысловасьці занята пераапрацоўкай лясное сырызны — 38,1 прац. усяе прадукцыі за 1924-25 год. Прылучэньне Гомельшчыны да БСРР утварыла-б багатую лясную гаспадарку і буйное аб'яднаньне прамысловасьці, якая пераапрацовуе сырызны. Лішняе гаварыць аб тым, што такое аб'яднаньне бязумоўна памагло-б рацыяналізацыі пастаноўкі як лясной, так і дрэваапрацоўчай прамысловасьці і гэта неабходна правесьці ў бліжэйшы час, тым больш, што прылучэньне да БСРР Гомельшчыны і былых паветаў Віцебскай губ., якія адышлі да Пскоўскай губ., было-б мэтазгодна як у эканамічным, так і ў этнаграфічных адносінах. М. П.»

З гэтага бачым, што бальшавікі зусім ня думаюць пашыраць Радавую Беларускаю Рэспубліку. Наіўная «Сав. Беларусь». Няўжо-ж у Маскве ня ведаюць, што гаспадарка беларускіх землеў вымагае злучэньня іх у вадно? Але гаспадарскія і інш. матывы існуюць у маскоўскіх бальшавікоў толькі тады, калі яны хочуць пакрыўдзіць Беларусь, але зусім не тады, калі трэба прызнаць Беларусам звычайнаю справядлівасьць.

Як ведама спагаднікі радавае ўлады ў Заходняй Беларусі карыстаюцца і часта ловяць людзёў на вудку тым довадам, што Радавая Беларуская Рэспубліка будзе пашырана. Дык ведайце, людзі, якая гэта праўда і ня верце ім

## Беларусы у Лацьвіі.

(*З „Голасу Беларуса.“*)

### Новае беларускае таварыства.

Латгальскі Акружны Суд 27 ліпня зацьвердзіў статут новага беларускага культурнаасьветнага таварыства «Асьвета».

29 ліпня адбыўся арганізацыйны сход гэтага Таварыства, на якім было выбрана Праўленьне Т-ва ў складзе: Старшыня—А. Махноўскі, намесьнік старшыні—С. Сахараў, сэкрэтар—Ф. Астроўскі, скарбнік—Я. Якубоўскі і сябра праўленьня—П. Жэрдзі, а кандыдатамі да іх грам. грам. Э. Вайводзіш і Я. Камаржынскі.

### Дзьвінскі Адзьдзел Т-ва „Беларуская Хата“.

Адбыўся чарговы годні сход Дзьвінскага Адзьдзелу Т-ва «Беларуская Хата». Сход зрабіў перавыбары праўленьня, папоўніўшы яго новымі працаўнікамі, і намеціў на бягучы год гэтакую праграму працы: 1) арганізацыю ў Дзьвінску дзяцінага саду, 2) арганізацыю драматычнага гуртка, 3) далейшае ўтрымаваньне і пашырэньне бібліятэкі-чытальні т-ва, 4) арганізацыю раз у тыдзень вуснае беларускае газэты, 5) гуртковае чытаньне газэт, тлумачэньне іх, менка думкамі і адказы на пытаньні забраным.

## НАВІНЫ.

— **„Замежная Беларусь“.** Выйшаў з друку і прадаецца ў беларускіх кнігарнях першы сшытак новай беларускай часопісі выдаванай у Празе пад назовам „Замежная Беларусь“. Цана кніжкі 5 зал. 50 гр., бал. 153. Зьмест: *К.*: Беларускаму Народу. Верш. *П. Крэчэўскі*: Скарына і незалежнасьць. Чэскі нацыянальны гімн. *Я. Г.* Узаемаадносіны Беларуска-Літоўскага княства з Чэхіяй 500 гадоў таму назад. Агульна славянскі гімн. *П. Крэчэўскі*: Беларусь у мінулым і сучасным. *К.*: Кніга (верш). *П. Зніч*: Здрада—драма канца XV і пачатку XVI ст. *П. Крэчэўскі*: Гісторыя беларускае кнігі. *І. Франко*: Пераклад з украінскага. Верш. *В. Вальтэр*: Новы Агасфэр. Вершы. *Матэр'ялы і дакумэнты*: В. Русак—Голас эміграцыі. Мандаты Б. Н. Р. Мэмарандум у Лігу Нацыяў 20.V.1924. Хроніка палітычнага жыцьця. Сьмех і жарты.

— **Звольнены вучыцялі праваслаўнай сэмінарыі** ў Вільні: Амбургэр, Клейбер, Абрамовіч, Іванова і Сьвіціц.

— **Хто шукае працы.** У апошні час на сьпісках безработных Віленскага Ураду Пасрэдніцтва Працы лічацца наступныя асобы жадаючыя на працу выехаць з краю: сьлясароў 80, кавалёў 17, электрамонтэраў 23, друкароў 21, сталяроў 33, шаўцоў 360, краўцоў 51, вучыцялёў 43, прыказчыкаў 76, працаўнікоў камунікацыі 30, афіцыялістаў земляробскіх 57, бюралістаў 269 і іншых 440.

— **Новы рэктар Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі.** На мінулым тыдні прыехаў у Вільню нованазначаны рэктар Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні, архімандрыт Мікалай, які дагэтуль жыў у Сербіі.

— **Марозаўцы варочаюцца ў праваслаўе.** Надовячы 7 марозаўцаў, прыхільнікаў „вуніі“ Маскаля Піліпа Марозава, вярнулася ў праваслаўе.

— **Справа Базыліянскіх муроў.** Апэляцыйны Суд у Вільні нядаўна прысуд Акружнага Суду ў справе Базыліянскіх муроў зьмяніў. Такім парадкам муры, дзе зьмяшчаецца Беларуская Гімназія і інш. культурныя ўстановы, прысуджаны ўраду. Пададзена касацыя ў Найвышшы Суд у Варшаве.

— **Падвышка паштовага тарыфу.** Ад 1-га верасьня ўводзіцца наступная зьмена ў коштах перасылкі поштай лістоў і пачак:

*Краёвыя лісты*: да 20 грамаў плата 20 грош., вышэй 20 да 250 грамаў 40 гр., ад 250 да 500 гр. 80 грошаў.

*Краёвыя друкі*: ад 1000 да 2000 гр. 60 грош.

*Краёвыя пачкі* вагой 10 да 15 клг. 3 зал. 50 грошаў, ад 15 да 20 клг. 4 зал. 50 гр. з даплатай 10 гр. ад кожнай пачкі.

Пры кожным пераводзе будзе даплачавацца 5 гр., а пры кожнай тэлеграме 10 грошаў.

*Тарыф заграгічны*: Лісты звычайныя да 20 грамаў 40 грошаў, за кожныя дальшыя 20 грам. па 20 грошаў.

Лісты ў Аўстрыю, Чэхаславаччыну, Румынію і Вугрыю да 20 грамаў 30 грошаў. Заграпічныя адкрыткі у гэтыя краі—20 грошаў, у іншыя краі 25 грошаў. Лісты „экспрэсс“—80 грошаў, упісаныя (заказныя) 40 грошаў.

## Із заграніцы.

### Літва бароніць сваіх работнікаў.

Нядаўна былі весьці ў газэтах аб непаразуменьню Літвы з Францыяй. Непаразуменьне ўзьнікла з тае прычыны, што Літоўскі ўрад дамагаецца для сваіх работнікаў у Францыі лепшых варункаў працы. Работнікі гэныя, паслухаўшы намовы агентаў, паехалі ў Францыю, а цяпер тамака гаруюць. Літоўскі урад запрапанаваў эміграцыйнаму таварыству францускаму зрабіць новаю ўмову, што зусім забясьпечыць інтарэсы літоўскіх работнікаў, а датуль задзержыў выезд новых работнікаў у Францыю.

### Ліцьвіны вывозяць у Англію капчонае мяса.

Нядаўна на параходзе «Baltara» быў высланы ў Лёндон першы транспарт капчонага мяса літоўскіх сьвіньнеў. Літоўскае консулства ў Лёндоне наказала, што цэлы транспарт быў адразу й добра прададзены. Консулства думае, што гэты вываз у Англію ёсьць Ліцьве карысны.

### Сьмерць П. Вілэйшыса.

Памёр у Літве адзін з найвыдатнейшых літоўскіх грамадзкіх і палітычных дзеячоў, інжынер Пётра Вілэйшыс. У панядзелак 16-га жніўня адбыліся паховіны на кошт дзяржаўны ў Коўне.

С. п. Вілэйшыс добра быў знаны і ў Вільні, дзе залажыў газэту „Vilniaus Žynios“. Праз нейкі час займаў становішча мін камунікацыі.

### Літоўскія манэўры.

У Аранах пад польскай граніцай ідуць вялікія манэўры літоўскіх войскаў.

### „Адкладзеная авантура“.

Пад гэткім назовам «Известия» 15.VIII. пішуць, што, калі Польшча не напала на Літву, дык гэта толькі дзеля таго, што радавы ўрад у пару даведаўся і падняў на ўсю Эўропу трывогу. Цяпер напад адкладзены, бо перад зборкай Лігі Народаў Польшча не захоча рабіць канфлікту. Стацьця канчаецца заяваю, што радавы ўрад не дапусьціць да гегемоніі Польшчы ў балтыцкіх партох. Шмат месца ў стацьці займае віленскае пытаньне.

### Чычэрын едзе на курорт.

Як наказуюць із Масквы, Чычэрын з прычыны хваробы нікога ня прыймае. Як настане паправа здароўя, мае Чычэрын паехаць на курорт заграніцу, праўдападобна ў Вісбадэн.

### Таварыства палітычных эмігрантаў із Заходняе Беларусі.

Аб гэтым Т-ве падробна даведаваемся з № 156 «Сав. Беларусі», дзе кажацца:

«У Маскве па ініцыятыве групы камуністых палітычных эмігрантаў і родзічаў Заходняе Беларусі ў канцы 1924 г. быў закладзены пачатак існаваньню «Таварыства палітычных эмігрантаў Заходняе Беларусі».

«Маскоўскае «Т-ва Пал. Эмігр. Заходняе Беларусі» паставіла сваёю мэтаю злучыць у свае рады ня толькі паліт. эмігрантаў, што ў Маскве, але праз арганізацыю сваіх адзьдзелаў і іншых гарадоў у межах СССР. Дзеля гэтага праводзіцца зьбіраньне статыстычнага

## Да нашых чытароў.

Просім усіх, хто дастае „Сялянскаю Ніву,“ паруніцца як мага барджджэй прыслаць грошы на падпіску. Рэдакцыя дарма газэты нікому пасылаць ня можа. Хто скора ня прышле грошай, таму будзем прымушаны перастаць пасылаць „Сял. Ніву.“

Паводле новых парадкаў на пошце, рэдакцыя патрабуе ведаць у пачатку кожнага месяца лічбу сваіх падпішчыкаў і іхвія адрэсы. Дзеля гэтага просім як старых нашых падпішчыкаў, так і тых, што хочуць яшчэ падпісацца на газэту, як найбарджджэй прыслаць у рэдакцыю грошы на падпіску.

Можна падпісавацца на газэту і сярод месяца, але тады рэдакцыі даражэй стоіць пасылка газэты,

*Рэдакцыя „Сял. Нівы.“*

---

матар'ялу. Ужо выяўлена глеба для арганізацыі адзьдзелаў у мястох: Ленінградзе, Н.-Ноўгарадзе, Саратаве, Ульяноўску, Сібіры і інш.».

«Бюро Т-ва праз Наркамасьветы РСФСР. дастала для сваіх сяброў 12 мясцоў на беларускае адзьдзяленьне Бухарынскага рабфаку і 10—у Смаленскім рабфаку...»

«Т-ва завязуе сувязь з палітычнымі эмігрантамі Заходняе Беларусі ў Амэрыцы, Францыі і іншых капіталістычных гаспадарствах»...

«Т-ва ў Маскве, становячыся шырокай арганізацыяй, зробіць вялікую справу прыгатаваньня і ўзгадаваньня нацыянальных грамадзкіх рабачаёў».

### Антысэмітызм сярод камуністых.

Камуністычная газэта «Праўда» друкуе стацьцю аб антысэмітызьме, каторы ў сувязі з апошнімі здарэньнямі ў камуністычнай партыі, прыймае ў ССРР страшныя разьмеры. Газэта піша, што антысэмітызм асабліва разьвіваецца паміж работнікамі. Камуністы, што працуюць між работнікамі, не протэстуюць проці шырэньня антысэміцкіх лёзунгаў, прыймаюць навет учасьце ў прыйманьню выразна антысэміцкіх рэзалюцыеў. «Праўда» асьцерагае камуністычнаю партыю перад новым рашчэпам на грунце нацыянальным, небясьпячнейшым як усе розьніцы паглядаў у пытаньнях палітычных.

Гэтак між работнікамі. А што-ж між сялянамі, тутака жыдоўская калёнізацыя стварыла шалёную ненавісьць да Жыдоў. Вось да чаго вядзе бальшавіцкая палітыка!

### Золата возяць самалётам.

Парыская газэта „Matin“ наказуе зь Лёндыну, што прыляцеў туды з Масквы англіцкі самалёт, які прывёз 50 скрыняў радавага золата, дабытага ізь Сібірскіх капальняў.

### З Лігі Народаў.

З Жэнэвы наказуюць, што паседжаньне камісіі да спраў рэарганізацыі Рады Лігі Народаў паўафіцыяльна назначана на 30 жніўня. Паводле нямецкага друку Румунія заявіла аб сваёй кандыдатуры на незаўсёднае мейсца ў Радзе Лігі.

### Рэвалюцыя ў Грэцыі.

У Грэцыі ўзьнікла рэвалюцыя. Ген. Пангалёс ськівены. Конділіс ёсьць панам палажэньня.

---

## Гаспадарскі адзьдзел.

Уводзячы ў „Сялянскай Ніве“ „Гаспадарскі адзьдзел“, рэдакцыя зварочуецца да сваіх супрацаўнікоў і чытароў із просьбаю прысылаці матар'ял у гэты адзьдзел. Матар'ял можа складацца із зацемак (заметкаў), лістоў (корэспондэнцыеў) і стацьцёў—на гаспадарскія тэмы. Адзьдзел абыймае земляробскаю гаспадарку (урабленьне зямлі і гадоўля жывёлы), промысл (на першым месцу земляробскі, а на другім і ўсялякі) і гандаль. Пры гэтым аднолькава вялікаю ўвагу будзем зварочаваці як на беларускі промысл і коопэрацыю, так і прыватны бел. гандаль. Усе згодзяцца, што вельмі вялікае значэньне будзе мець для беларускага адраджэньня і беларускага народу наагул палепшаньне земляробскае гаспадаркі і стварэньне свайго промыслу й гандлю. Ведаючы добра гэтае значэньне, Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца даваць ініцыятыву ў гэтым кірунку і па магчымасьці арганізаваць гаспадарскае жыцьцё беларускае. Вялікаю ролю тутака можа згуляці ворган Саюзу „Сялянская Ніва“ із сваімі корэспондэнтамі-супрацаўнікамі. Нашыя чытары-супрацаўнікі павінны ўзяць на сябе ініцыятыву ў варганізаваньню на месцу гаспадарскага жыцьця беларускага, а так сама высьвятляць у сваёй газэце, як мае рабіцца гэтая арганізацыя.

Пішэце ў „Сялянскаю Ніву“ аб тым, што ўжо зроблена ў гаспадарскім жыцьцю беларускім, што робіцца і што павінна рабіцца. Пішэце ня толькі аб тым, што добрага дзеяцца ў гэтым кірунку, але так сама і аб тым, што ёсьць благое, каб, асьцерагаючы ад благога, кіраваць да добрага.

### Карысная й танная школа.

Гэткаю школаю ёсьць хлапецкая будаўніцкая школа ў Вільні, Капаніца № 5.

Вучаць у ёй за муляроў, пячкуроў і цесьляў. Навука трывае 2 гады. Вучацца як узімку, так і ўлетку. Узімку вучацца з кніжак, а ўлетку практычна пры будоўлі. Прыймаюцца хлапцы ад 16—18 год і па вайсковай службе. Прыймо бывае ад 1 верасьня да 1 лістападу. Уступная плата 5 залатовак. За карыстаньне прыладамі ў год 20 з. Першы год ад 1 лістапада да Вялікадня яда мусіць быць свая. Улетку прыймаюць тых, што скончылі ня меней 4-х адзьдзелаў пачатковай школы, а на другі год вучэньня і ўзімку —яда дармавая.

— **Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс на 23.VIII. лічыўся 9 зл. 02 гр. за даляр. Рублі золатам—4.85, сярабром—3.25.

На чорнай гелдзе ў Вільні 23.VIII. плацілі за даляр 9 зл. 10 гр.

---

## Найвялікшыя барбарызмы у нашых газэтах.

Кожная мова пры сваім літаратурным развою патрабуе навуковага філёлёгічнага кіраўніцтва або прынамся навуковае помачы. Патрабуе гэтага так сама мова беларуская. Як у іншых народаў, так і ў нас гэтакаю помач мелі-б даць нашыя навуковыя ўстановы або таварыствы, значыцца ў Вільні цяперака Беларускае Навуковае Т-ва. Падобныя ўстановы сваімі дасьледзінамі і вывадамі зь іх дзеляцца із шырокай інтэлігенцыяй пасярэдніцтвам адумысловых выданьняў — філёлёгічных часопісаў.

Але ў нас дагэтуль нічагусенькі ў гэтым кірунку ня робіцца. Дзеля гэтага, чакаючы вялікага, я пастанавіў рабіці саматугам хоць малюсенечкае. У нашых газэтах і часопісах ёсьць звычайна шмат розных барбарызмаў. Паміж гэтымі барбарызмамі бывае некалькі найвялікшых і найдзічэйшых. Чытаючы іх, проста сэрца разрываецца і немагчыма вытрываць, каб на іх не зьвярнуці ўвагі. Дык, карыстаючыся гасьціннасьцяй „Сялянскае Нівы“, я буду пад вышпрыведзеным назовам на гэтыя найдзічэйшыя барбарызмы зварочаваць увагу нашых рэдакцыеў, пісьменьнікаў, публіцыстых і чытароў. Дзеля месца (народная газэта), у якім гэта буду рабіць, зацемкі (ўвагі) мае будуць вельмі кароткія, найчасьцей прыйдзецца абмежыцца адным адцемленьнем, ня кілаючыся ў навуковыя довады. Дзеля патрэбы падобнае работы, патрэбы ўжо даўно выказанай у ваднэй віленскай беларускай газэце, спадзяюся, што мая гэтая спроба будзе добра прынята.

*„Народная Справа“* № 9 ужывае ўкраінізм „сходзіны“. Найлепшае беларускае слова ё *зборка*, яшчэ ёсьць *сход* і *забраньне*.

*„Народная Справа“* № 10: „аблягчыць—русіцызм, пабел.—палягчыць;

„робры“—русіцызм, калі-б гэтае слова ўжывалася ў бел. мове, дык магло-б быць толькі *рэбры*, бо бел. *р*—цьвярдое;

„сумліў“, „сумліўны“ і г. п.; хворма гэтых словаў не беларуская. Карэнь гатага слова той-жа, што і ў *сумленьне*; хто ў чым няпэўны, той *сумляваецца*, адгэтуль *сумлеў*, *сумлевак*, *бяссумлеву*, *сумлеўны* і г. д. Словы гэтыя запісаны мною ў Віленшчыне. „Сумліў“, „сумніў“ і г. п.—украінізм, бо ў укр. мове на месцу прасл. *ѣ* ё *і*.

Займёны мой, твой, свой маюць у наз. скл. мн. л. на канцы—*е* для ўсіх радоў (мае, свае), дык ня можа быць „сваі пагляды“.

*„Сав. Беларусь“* № 154: ня будзе „лістаносец“, але *лістаноша*, бо маем-жа *механоша*, *кошаноша*; „упэўнены“ і г. п.—русіцызм, бо ўтворана паводле рас. уверенный; пабел. — *пэўны*, *пэўнасьць* (або пеўны і г. д.).

*Д-р Я. Станкевіч.*

---

## НАШАЯ ПОШТА.

Гр. **Дзянькову Пятру:** За падпіску да 1-га верасьня належыцца з Вас 1 зал. 50 гр.

Гр. **Мікалай Плюта** з Новай Вёскі: Ліст ад Вас дасталі ажно 19 жніўня, дык не маглі паслы пасьпець у Порплішча на кірмаш, каб зрабіць веча.

Гр. **Ян Белюк** ізь Сьнічан: Газэту пасылаем, грошаў можам пачакаці найбалей месяц.

**Дастана:**

Ад: Гэбэтн·ра і Вольфа ў Варшаве 28 зал. 8 грошаў, В. С.—5 зал., Ко. Р.—5 зал., Адама Рудкевіча із Слоніма—4 зал., Івана Лейкі—3 зал, Аляксандра Тараракі—1 зал. (газэту будзем высылаць із 1 верасьня).

Ад: Тамаша Шчаснага—2 зал. (газэту будзем высылаць ад 1 верасьня), Клеманса Удота, Грыгора Гуральчыка, Базыля Мінайлы, Мікалая Кузьняцова, Канст. Паўлаўскага — **па 2 залатоўкі.**

---

## АБВЕСТКА.

**ПАТРЭБНЫ ВУЧЫЦЕЛЬ** для беларускай прыватнай школы ў вёс. Анісімовічы, Нова-Мыскай вол., Баранавіцкага пав. КАНДЫДАТЫ з бліжэйшай аколіцы павінні неадкладна прыслаць: дакумэнты аб вучыцельскай кваліфікацыі, копію пашпарта або пасьведчаньне польскага грамадзянства і жыцяпіс напісаны ў польскай мове на адрэс: m. Wilno, Завальная 7—8, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

---

## Клецкая Белар. Гімназія

**прыродна-матэм. тыпу, з прыгатавальнаю клясаю,**

даводзіць да ведама грамадзянства, што **прыймовыя экзамены** ў гімназіі на 1926—1927 шк. год адбудуцца ў днёх ад 1-га да 6 га верасьня.

**Заявы** аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі або апякуны. Да заяваў трэба прылучыць:

1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня.
2) Пасьведчаньне аб прышчэпе воспы.
3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі вучня, калі ён да гэтага вучыўся ў якой школе
і 4) Фотографічную картку.

Тыя з паступаючых, якія маюць больш як 14 год, калі яны апошняе паўгодзьдзе ні ў якой школе ня вучыліся, павінны прадставіць яшчэ пасьведчаньне маральнасьці ад сьвяшчэніка, гміны, паліцыі ці староства.

Вучні пачатковых школаў прыймаюцца ў адпаведныя клясы гімназіі бяз экзаменаў; пры гэтым IV адзьдзел пачатковай школы раўнуецца да I кл. гімназіі; акончыўшыя аднак VII адзьдзелаў пачатковай школы могуць быць прыняты бяз экзаменаў толькі ў IV клясу.

**Уступная плата** да новапаступаючых: у I і II кл.—5 зал., у III і IV кл.—8 зал., у V, VI і VII —10 зал.

**Плата за навуку** на першае поўгодзьдзе ўстаноўлена ў I кл. 25 зал., у II кл. 60 зал,, у III кл. 75 зал., у IV кл. 90 зал., у V і VI кл. 100 зал. і VII кл. 125 зал. і можна выплачывацца памесячна, але абавязкава за месяц у перад.

Бяднейшыя вучні, асабліва вучні малодшых клясаў, могуць быць часткава або і зусім звольнены ад платы за навуку.

У прыгатавальнай клясе навука бясплатная.

**Заняткі** ў асноўных клясах ПАЧНУЦЦА 6-га верасьня, а ў прыгатавальнай клясе—15-га верасьня.

**Дырэкцыя.**

---

## НАВАГРАДЗКАЯ
## Беларуская 8-мі кл. Гімназія

**прырода-матэматычнага тыпу**

даводзіць да ведама грамадзянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1926—1927 школьны год у-ва ўсе клясы Гімназіі адбудуцца **ад 1-га да 10-га верасьня.**

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі, або апякуны.

Да заявы трэба далучыць:

1) Мэтрыку аб нарадженьні вучня;
2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;
3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншай гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku“ аб дазволе, прылучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Заняткі ў гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.
Навука ў першай клясе бясплатна.

**Дырэкцыя.**

---

Беларусы, пасылайце свае дзеці у беларускія гімназіі!

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.**